# ULTIMATE X-MEN®

ISSUE 23

## АДСКІЯ ПАКУТЫ. ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

MILLAR
ANDREWS

MARVEL®

ADAM KUBERT
ISANOVE

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

СУЧАСНЫЯ ЛЮДЗІ-ІКС
#23 (2001)
ПЕРАКЛАД І
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

САЙТ: COMICSBY.BY
VK: VK.COM/COMICS_BY


Інстытут Хаўера для адораных падлеткаў:
СЛУХАЙ, ГЕНРЫ! МЫ ПАЧНЕМ ТРЭНІРОЎКУ Ў НЕБЯСПЕЧНАЙ ЗОНЕ ПРАЗ ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН. ТЫ ІДЗЕШ?
МНЕ ТРЭБА ЯШЧЭ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ СЯКУНД, КАБ ЗАКОНЧЫЦЬ ВОДГУК НА «КАПІТАЛ» МАРКСА. Я ПАВІНЕН ТРОХІ ЎЗНАВІЦЬ СВАЕ ВЕДЫ ПА ГРАМАТЫЦЫ.
PURE
NYC



From: Beast666@hotmail.com
To: Mutantchick421@yahoo.net
Subject: Я ВЕЛЬМІ НУДЖУСЯ ПА ТАБЕ, ДАРАГАЯ!

МАЯ МІЛАЯ НАОМІ,
Я ВЕДАЮ, ШТО ПРАЙШЛО ТОЛЬКІ 48 ГАДЗІН, ЯК ТЫ ЎЕХАЛА НА ЗДЫМКІ, АЛЕ МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ГЭТА ЦЭЛАЯ **ВЕЧНАСЦЬ**.

Я ТАК НУДЖУСЯ ПА ТАБЕ Ў ГЭТЫЯ АПОШНІЯ ДНІ. МАБЫЦЬ, МЫ ХОЦЬ РАЗОК АДЫЙДЗЕМ АД НАШАГА «ЗАЛАТОГА ПРАВІЛА» І СУСТРЭНІМСЯ?



From: Mutantchick421@yahoo.net
To: Beast666@hotmail.com
Subject: Я ВЕЛЬМІ НУДЖУСЯ ПА ТАБЕ, ДАРАГІ!

АХ, МОЙ МІЛЫ, ДОБРЫ ГЕНРЫ МАККОЙ!

Я Б З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ, АЛЕ НЕ ЗАБЫВАЙ, ШТО Я ЗУСІМ НЯДАЎНА ДАВЕДАЛАСЯ ПРА СВАЮ **МУТАЦЫЮ**, І НЕ ЎПЭЎНЕНА, ШТО ЗМАГУ **РАЗМАЎЛЯЦЬ** ПРА ГЭТА САМ НА САМ.

ПРАБАЧ ЗА МАЮ СЛАБАСЦЬ, АЛЕ ГЭТА ТАК НЕЗВЫЧАЙНА. Я ДА СМЕРЦІ БАЮСЯ, ЧТО КАЛІ МЫ **ПАЧНЕМ СПЯШЫЦЬ**, МЫ ЎСЁ **ЎСКЛАДНІМ**.




From: Mutantchick421@yahoo.net
To: Beast666@hotmail.com
Subject: Я ВЕЛЬМІ НУДЖУСЯ ПА ТАБЕ, ДАРАГІ!

КАЛІ ЛАСКА, НЕ КАЖЫ ТАК, ГЕНРЫ.
ТЫ – САМЫ ПРЫГОЖЫ ЧАЛАВЕК У СВЕЦЕ,
І Я НЕ ЖАДАЮ СЛУХАЦЬ ПЯРЭЧАННЯЎ.


ТАК, ГЭТА ПРОСТА ЖАХЛІВА! КЛЯНУСЯ БОГАМ, ПРАЗ ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН ГЭТЫ ІДЫЁТ ЗРОБІЦЬ МНЕ **ПРАПАНУВУ**. ЦЯПЕР ЗВЕР У МАІХ РУКАХ.
ХМ, МАЛАЙЧЫНА, ПУХВІР, АЛЕ ТАБЕ НЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ВЫДАВАЦЬ СЯБЕ ЗА ЖАНЧЫНУ – ГЭТА ПАХАБЛІВА?
НУ, ПАКУЛЬ МНЕ НЕ ЗРОБЯЦЬ **БУДАЎНІЧЫ КРАН**, ЯКІ Б ВЫТРЫМЛІВАЎ ДВАЦ-ЦАЦЬ ТОН, У МЯНЕ НЯМА ІНШЫХ ЗАБАЎ, ПРЫЯЦЕЛЬ.


ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, ГЭТА БОЛЬШ ЦІКАВА, ЧЫМ УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У **ДЗІЦЯЧЫХ** ТЭРАРЫ-СТЫЧНЫХ АПЕРАЦЫЯХ РТУЦІ І ПУНЦОВАЙ ВЕДЗЬМЫ, НА ЯКІЯ ЯНЫ НАС ПАСЫЛАЮЦЬ.
І ЯК «БРАТЭРСТВА МУТАНТАЎ» МАГЛО АПУСЦІЦЦА ДА ТАГО, КАБ ПРАВЯРАЦЬ РАХУНКІ МІЖНАРОДНЫХ КАМПАНІЙ? МАГНЕТА Б У ТРУНЕ ПЕРАКУЛЬНУЎСЯ Б!
АДПАЧНІ І ПАГЛЯДЗІ «У СВЕЦЕ ЖЫВЁЛІН». Я ЧУЎ, СЁННЯ РАНІЦАЙ БУДУЦЬ ПАКАЗВАЦЬ ФІЛЬМ ПРА ЛЮБОЎНЫЯ ГУЛЬНІ МАЛПАЎ.


ДЗЕЛЯ БОГА, СКОЛЬКІ МНЕ ЯШЧЭ ПАЎТАРАЦЬ? Я – МУТАНТ, ІДЫЁТ! МЯНЕ НЕ ЦІКАВЯЦЬ УСЯКІЯ ГУБАСТЫЯ ШЫМПАНЗЭ.
КАЖУЦЬ, ТАМ РАСКАЖУЦЬ ПРА **НЕЗВЫЧАЙНУЮ САМ-КУ** МАЛПЫ. ВЕДАЕШ, ГЭТУЮ ЭКЗАТЫЧНУЮ ЗВЯРУШКУ ЗНАЙШЛІ Ў КОНГА Ў 1929 ГОДЗЕ.
НЕКАТОРЫЯ АНТРАПОЛАГІ ЛІЧАЦЬ, ШТО ГЭТА НЕВЕ-РАГОДНА ПРЫЦЯГАЛЬНАЯ МАЛПА ДА ГЭТУЛЬ ЖЫВЕ Ў ДЖУНГЛЯХ.


НУ, МАБЫЦЬ, Я І ПАГЛЯДЖУ ПАРУ ХВІЛІН. РАПТАМ ЗАЎВАЖУ **ЗНАЁМЫ** ТВАР.



# Парк у Венчэсцер Кантры: калі так можна сказаць

ЯК ТЫ СЯБЕ АДЧУВАЕШ?

ВЕЛЬМІ АГІДНА, СКОТ.

ЯШЧЭ ТРЫ **ПРЫСТУПЫ** ЗА АПОШНІЯ **ДВАЦЦАЦЬ ГАДЗІН**... ЗУСІМ ЯК У БЫЛЫЯ ЧАСЫ, ПАМЯТАЕШ?

ПЕРАСТАНЬ, ДЖЫНА. **НЯ ТРЭБА ПАРАЎНОЎВАЦЬ** ГЭТА З ТЫМ, ШТО ТЫ ПЕРАЖЫЛА Ў ЛЯКАРНІ, КАЛІ ТВАЕ МАЦІ І ТАТА ЎПЕРШЫНЮ ЗВЯРНУЛІСЯ ДА ПРАФЕСАРА...

...Я ЗГРЫЗЛА САБЕ ПАЛЬЦЫ ДА КАСЦЕЙ.

Я ВЕДАЮ.


Я ПАМЯТАЮ ЎСЁ ДА САМЫХ ДРОБЯЗЕЙ, СКОТ. І ЗАРАЗ Я АДЧУВАЮ ТОЕ Ж, ШТО І ТАДЫ.
АДЗІНАЯ **РОЗНІЦА**, ШТО ГЭТЫМ РАЗАМ ТАГО, ХТО СПРАБУЕ ДАБРАЦЦА ДА МЯНЕ, НЕ СПЫНЯЮЦЬ НІ **АБЯЗБОЛЬВАЮЧЫЯ**, НІ **ТЭЛЕПАТЫЧНАЕ ЎЗДЗЕЯННЕ** ПРАФЕСАРА.
І **ХТО**, НА ТВАЮ ДУМКУ, СПРАБУЕ ДА ЦЯБЕ ДАБРАЦЦА?

ТЫ САПРАЎДЫ ХОЧАШ **ВЕДАЦЬ**?

МНЕ ЗДАЕЦЦА, Я ВЫБРАНА, КАБ СТАЦЬ НОСЬБІТАМ ЗВЫШПРАСТОРАВАЙ ІСТОТЫ, ЯКАЯ ХОЧА ПРАНІКНУЦЬ У НАШ СВЕТ, КАБ ЗНІШЧЫЦЬ ЯГО, ЯК ЯНА ЗНІШЧЫЛА МІЛЬЯРДЫ СВЕТАЎ ДА ГЭТУЛЬ.
ЯНА ГАВОРЫЦЬ СА МНОЙ НА ЛАТЫНІ І КЛІЧА СЯБЕ СІЛАЙ ФЕНІКСА. ЯНА ХОЧА ЗНІШЧЫЦЬ УСЁ, ШТО БЫЛО СТВОРАНА БОГАМ.


Я Ж КАЗАЛА.
ГЭТА ВЕЛЬМІ **АГІДНА**.


КАЛІ ТЫ ПРЫЛЯЦІШ НА **ДЗІКУЮ ЗЯМЛЮ**?
ПРАЗ ХВІЛІН ДЗЕСЯЦЬ ЦІ ДВАЦЦАЦЬ. ТЫ Б БАЧЫЛА, ЯК Я СПРАБАВАЎ ПАТЛУМАЧЫЦЬ КІЦЦІ, ШТО ЁЙ НЕЛЬГА ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У ГЭТАЙ МІСІІ. НАПЭЎНА, ЯНА ЗАРАЗ ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ **СУПЕРГЕРАІНЯЙ**.


ТЫ ЛІЧЫШ, ШТО ЗНІКЛЫЯ МАРАКІ **ЯШЧЭ ЖЫВЫЯ**?
ХТО ВЕДАЕ? ТЫЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ АДПРАВІЛІСЯ НА СТАРУЮ БАЗУ МАГНЕТА З ЯЕ СУПЕРТЭХНІЧНЫМІ ПРЫЛАДАМІ, БЫЛІ **ЛЕПШЫМІ СПЕЦЫЯЛІСТЫМІ** Ў СВАЁЙ ГАЛІНЕ.
КАЛІ ХТОСЬЦІ З ІХ ВЫЖЫЎ, ГЭТА ВЫДАТНА. АЛЕ ІХ РАЦЫЯ НЕ АДКАЗВАЛА ЗА ЎВЕСЬ ЧАС НАШАГА ПАЛЁТУ, І ГЭТА **НЕ ДАЕ** МНЕ АСАБЛІВАЙ **НАДЗЕІ**.


Я НЕ ХАЦЕЎ УЯЗДЖАЦЬ, БО Я ТАК **ПРАТРЭБНЫ** ТАБЕ.
ТАК МІЛА. АЛЕ, ШЧЫРА КАЖУЧЫ, ТЫ ТУТ **МАЛА ЧЫМ** МОЖАШ ДАПАМАГЦІ.


АЛЕ МНЕ БЫЛО Б ЗНАЧНА ЛЯГЧЭЙ, КАЛІ Б ПРАФЕСАР НЕ ЗАМЯНІЎ КАЛОСА РАСАМАХАЙ.
ДАВЯРАЦЬ СВАЁ ЖЫЦЦЁ **ВОРАГУ**, СКОТ... ГЭТА ДУРАЦКАЕ ПРАВІЛА Ў ШКОЛЕ ХАЎЕРА, ЯКІМ ЁН КАРЫСТАЕЦЦА, КАБ ВЫПРАВІЦЬ **КАНФЛІКТ** ПАМІЖ СТУДЭНТАМІ.


ЁН ВЕДАЕ ПРА ТОЕ, ШТО МЫ РАЗМАЎЛЯЕМ ТЭЛЕПАТЫЧ-НА?
А НАМ НЕ ЎСЁ РОЎНА?


Я КАХАЮ ЦЯБЕ, СКОТ. І НЕ ВАЖНА, У ЯКІМ Я БУДУ СТАНЕ Ў ТОЙ ЧАС, КАЛІ ТЫ ВЕРНЕШСЯ, АЛЕ Я ХАЧУ, КАБ ТЫ ВЕДАЎ, ШТО АПОШНІЯ ДВА МЕСЯЦЫ БЫЛІ САМЫМІ ЛЕПШЫМІ ЗА ЎСЁ МАЁ НЯДОЎГАЕ ЖЫЦЦЁ.
ПЕРАСТАНЬ, ШТО ЗА ГЛУПСТВЫ.


АЛЕ ГЭТА ПРАЎДА, МІСТАР СКОТ САМЕРС.





ДА ГЭТУЛЬ НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ У ТОЕ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ МІНУЛАЙ НОЧЧУ, НАОМІ! ЦЫКЛОП І РАСАМАХА ЛЕДЗЬ НЕ **ЗАБІЛІ** АДЗІН АДНАГО З-ЗА ТАГО, ШТО РАСАМАХА РАЎНУЕ МАРВЕЛ.

ПРАФЕСАР ПАМЯСЦІЎ ІХ У ІЗАЛЯТАР НА ГАДЗІНУ, КАБ ЯНЫ СУПАКОІЛІСЯ, А ПОТЫМ АДПРАВІЎ АДШУКВАЦЬ АМЕРЫКАНСКІХ МАРАКОЎ, ЯКІЯ ЗНІКЛІ НА ДЗІКАЙ ЗЯМЛІ.



БОЖА, І НАВОШТА ХАЎЕР ПАДДОБРЫВАЕЦЦА ДА ВАЕННЫХ, ГЕНРЫ? АРМІЯ ЗША НАКІРАВАЛАСЯ НА ДЗІКУЮ ЗЯМЛЮ ТОЛЬКІ ДЛЯ ТАГО, КАБ **ВЫКРАСЦЬ НАВЕЙШЫЯ ТЭХНАЛОГІІ МУТАНТАЎ**.

Я ЛІЧУ, ШТО ЦЫКЛОП І РАСАМАХА ВЕДАЮЦЬ МЯСЦОВАСЦЬ ЛЕПШ, ЧЫМ ХТО Б ТАМ НІ БЫЎ, АЛЕ НАВОШТА РЫЗЫКАВАЦЬ ЖЫЦЦЁМ МУТАНТАЎ ДЗЕЛЯ ІСТОТ, ЯКІЯ ВЫСТУПАЮЦЬ СУПРАЦЬ НАС?



ЯНЫ НЕ ЎСЕ СУПРАЦЬ НАС, НАОМІ. ВЕДАЕШ, СЁННЯ НАШЫ ТАЕМНЫЯ СПОНСАРЫ ПРЫСЛАЛІ СВАЙГО ПРАДСТАЎНІКА, КАБ ВЫСВЯТЛІЦЬ, КОЛЬКО ГРОШАЎ НАМ СПАТРЭБІЦЦА ДЛЯ ПРАЦЭСА З БАЦЬКАМІ ЧАЛАВЕКА-ІЛЬДА.

Я ВЕЛЬМІ СУМУЮ ПА БОБІ. СЁННЯ Я ЎСЮ РАНІЦУ СЛУХАЎ ЯГО КАЛЕКЦЫЮ МУЗЫЧНЫХ КРУЖЭЛАК.



БЕДНАЕ ДЗІЦЯ. Я ТАБЕ ВЕЛЬМІ СПАЧУВАЮ... :(

АЛЕ З ЧАГО ТЫ ВЫРАШЫЎ, ШТО **СПОНСАРЫ** ЛЮДЗЕЙ ІКС ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ БЕСКАРЫСЛІВА? НЯЎЖО **АНАНІМНАСЦЬ** НЕ АБАРАНЯЕ ІХ АД ТЭЛЕПАТЫЧНАГА **КАНТРОЛЯ** ПРАФЕСАРА?



НЕ. ЯНЫ ЗАХОЎВАЮЦЬ АНАНІМНАСЦЬ ТАМУ, ШТО ДАЧЫНЕННЕ ДА НАШЫХ МІСІЯЎ МОЖА САПСАВАЦЬ ІХ РЭПУТАЦЫЮ, НАОМІ.

АРАРО І КІЦІ АГУЧЫЛІ ПАДОБНЫЯ ДУМКІ НА АПОШНІХ ЗАНЯТКАХ, І Я ШЧЫРА ВЕРУ Ў ТОЕ, ШТО ГЭТА НЕ БЫЛО ТЭЛЕПАТЫЧНАЕ ЎЗДЗЕЯННЕ ПРАФЕСАРА.



У СЭНСЕ? ЛІЧЫШ, ШТО **КЛУБ «ПЯКЕЛЬНАЕ ПОЛЫМЯ»**, ЯКІ, ЯК ТЫ МНЕ КАЗАЎ, НАБЫЎ ВАМ **САМАЛЁТЫ І ЗВЫШДАСКАНАЛУЮ АХОЎНУЮ СІСТЭМУ**, ЗРАБІЎ ГЭТА ПА СВАЁЙ ДАБРЫНІ? ГЛУПСТВА!!!

ВОСЬ ЗА ШТО Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, ГЕНРЫ МАКОЙ. ТЫ, НІБЫ ДЗІЦЯ, ВЕРЫШ У ТОЕ, ШТО ЛЮДЗІ ДАЛЁКА НЕ САМЫЯ ГЛУПЫЯ І САМАЗАКАХАНЫЯ ІСТОТЫ НА ЗЯМЛІ. :)

ГЭТА ТАК **МІЛА**!

Дом Бобі Дрэйка, Лонг-Айленд:

СЕНАТАР ТОРК! СЕНАТАР ТОРК! ВЫ МОЖАЦЕ СКАЗАЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ ПРА ІСК НА ПЯЦЬДЗЕСЯТ МІЛЬЁНАЎ ДАЛЯРАЎ, ЯКІ ПАДАЛІ СУПРАЦЬ ХАЎЕРА І ЛЮДЗЕЙ ІКС БАЦЬКІ ЧАЛАВЕКА-ІЛЬДА?

МАГУ, КАНЕШНЕ, МАГУ.

Я ТОЛЬКІ ШТО ПРАВЁЎ КАНСУЛЬТАЦЫЮ З БАЦЬКАМІ ЮНАГА БОБІ. ПАСЛЯ ТАГО, ЯК МЫ АГЛЯДЗЕЛІ ЯГО РАНЕННІ, МЫ ВЫРАШЫЛІ ПАВЯЛІЧЫЦЬ ІСК ДА ЛЮДЗЕЙ ІКС ДА **СТА МІЛЬЁНАЎ ДАЛЯРАЎ**.

ЮНЫ БОБІ ЗРОБІЦЬ ПУБЛІЧНУЮ ЗАЯВУ ПЕРАД УСТАНОВАЙ СУДА ЗАЎТРА РАНІЦАЙ.

СЕНАТАР ТОРК! ЯШЧЭ АДНО ПЫТАННЕ...

ПРАБАЧЦЕ, МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК, АЛЕ Я СПЯШАЮСЯ НА АБЕД СА СВАЁЙ ЖАНОЙ З НАГОДЫ ЯЕ ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ. А ЯК ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ЭНДРУ БОРДЭР ТОРК НІКОЛІ НЕ ВЫМУШАЕ ДАМУ ЧАКАЦЬ.


КАЛІ ГЭТЫ СТАРЫ ВЫРАДАК ЛІЧЫЦЬ, ШТО Я СКАЖУ, БЫЦЦАМ ПРАФЕ-САР **ПРАМЫВАЎ** НАМ МАЗГІ І **ПРЫМУШАЎ ПАРУШАЦЬ ЗАКОН,** ТАДЫ ЁН ЗУСІМ АШАЛЕЎ.


ГЭТЫ **«СТАРЫ ВЫРАДАК»** ТОЛЬКІ ШТО АПЛАЦІЎ ТВАЮ МЕДЫЦЫНСКУЮ СТРАХОЎКУ, БОБІ ДРЭЙК. МЫ З ТВАІМ БАЦЬКАМ НІКОЛІ **НЕ ЗМАГЛІ** Б АПЛАЦІЦЬ ТАБЕ ТАКОЕ ЛЯЧЭННЕ. НАВАТ ЗА **МІЛЬЁН** ГАДОЎ.
ДЫК НЯХАЙ ЗНОЎ ЗЛАМАЕ МНЕ НОГІ. Я ХУТЧЭЙ СЯДУ Ў ІНВАЛІДНАЕ КРЭС-ЛА, ЧЫМ ПРЫМУ ГРОШЫ АД ЧАЛАВЕ-КА, ЯКІ **ПЕРАКАНАЎ ПРЭЗІДЭНТА** ЗАПУСЦІЦЬ ПРАГРАМУ **ВАРТАЎНІКОЎ**.


ТОРК ПЛЯВАЦЬ НА НАС ХАЦЕЎ... ПРОСТА ЁН ВЫКАРЫСТОЎВАЕ ШАНС ЗАЧЫНІЦЬ ШКОЛУ І ЗНІШЧЫЦЬ ПРАФЕСАРА.
МУТАНТЫ – АДЗІНАЯ ПАГРОЗА ДЛЯ ТЫХ **ФАНАТЫКАЎ**, ІНТАРЭСЫ ЯКІХ ЁН ПРАДСТАЎЛЯЕ. І ЯГО САМАЯ ВЯЛІКАЯ МАРА – ЗАСАДЗІЦЬ НАС У **ГАЗАВЫЯ КАМЕРЫ**.


БОБІ, ПЕРАСТАНЬ. МОЖА НЕ БУДЗЕМ ПА-ЧЫНАЦЬ СКУЛЛЁ? ДАВАЙ ПРОСТА ПАРАЗМАЎЛЯЕМ, ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ПЕРА-КАЗВАЦЬ ЗВАР'ЯЦЕЛЫЯ ПРАМОВЫ ХАЎЕРА...

КАЛІ МАЁ КІРАЎНІЦТВА НА АЎТАМАБІЛЬНЫМ ЗА-ВОДЗЕ ДАВЕДАЛАСЯ ПРА ТОЕ, ШТО МОЙ СЫН БЫЎ **ІКСМЭНАМ**, Я БЫЎ ПЕРШЫМ, КАГО ЗВОЛЬНІЛІ ПАД ЧАС ЧАРГОВАГА **СКАРАЧЭННЯ**.
КАЛІ СЯБРОЎКІ ТВАЁЙ МАЦІ ДАВЕДАЛІСЯ ПРА ТОЕ, ХТО ТЫ, ПАЛОВА З ІХ СТАЛІ ПЕРАХОДЗІЦЬ НА ДРУГІ БОК ВУЛІЦЫ, КАБ ТОЛЬКІ НЕ СУСТРАКАЦЦА З ЁЙ, А ДРУГАЯ ПАЛОВА НАОГУЛ ПЕРАСТАЛА З ЁЙ РАЗМАЎЛЯЦЬ.
НЕ ПРАХОДЗІЦЬ І ДНЯ, КАБ ХТОСЬЦІ НЕ НАГАДЗІЎ НАМ НА ГАНКУ ЦІ НЕ ЎКІНУЎ СМЕЦЦЕ Ў НАШУ ПАШТОВУЮ СКАРЫНКУ. І ГЭТА ЎСЁ З-ЗА ТАГО, ШТО ХЛОПЧЫКУ НЕ ПАШАНЦАВАЛА З ГЕНАМІ.
ГЭТЫ ПРАЦЭС – НАШ ПЕРШЫ ПОСПЕХ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК МЫ ДАВЕДАЛІСЯ, ШТО З ТАБОЙ НЕ ЎСЁ Ў ПАРАДКУ, БОБІ.
ГРОШЫ ДАПАМОГУЦЬ НАМ ПАЧАЦЬ УСЁ СПАЧАТ-КУ НА НОВЫМ МЕСЦЫ. ГЭТА ПРОСТА ДРОБЯЗЬ ДЛЯ МІЛІЯРДЭРАЎ, ЯКІЯ ФІНАНСУЮЦЬ ХАЎЕРА.
НЕ ХАЧУ НАВЯЗ-ВАЦЬ ТАБЕ СВОЙ ПУНКТ ГЛЕДЖАН-НЯ, СЫНОК, НЕ ХАЧУ...
...АЛЕ КАЛІ ТЫ НЕ ВЫСТУПІШ З ГЭТЫМ **ІСКАМ НА КАМПЕНСАЦЫЮ ЗА ФІЗІЧНЫЯ ПАШКОДЖАННІ**, ТАДЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ ЧАС МЫ ЎСЕ **ПАТРАПІМ НА ВУЛІЦУ**.



ПРЫВІТАННЕ, НАОМІ! :)

МЫ СА ШТОРМ МЫЛІ СЁННЯ ЎВЕЧАРЫ ПОСУД, АЛЕ Я АДЧУВАЎ СЯБЕ ВЕЛЬМІ ДЗІЎНА. ЯНА РАСКАЗВАЛА МНЕ ГІСТОРЫЮ ПРА **ЗАКЛАДНІКАЎ У ЛУІЗІАНЕ**, АЛЕ Я **НЕ СЛУХАЎ** ЯЕ.

ДАГЭТУЛЬ НЕ ВЕРЫЦЦА, ШТО МЫ ТАК ДОЎГА ПЕРАПІСВАЕМСЯ. ШТО Ў НАС **АГУЛЬНАГА**? ЧАМУ Я НЕ МАГУ НІ З КІМ МЕЦЬ СТАСУНКАЎ, АКРАМЯ **ЦЯБЕ**?



ТЫ НІКОЛІ НЕ ДУМАЎ ПРА ТОЕ, ЦІ МОГ БЫ ТЫ ПЕРАЙСЦІ НА **ДРУГІ БОК**? ЦІ МОГ БЫ ТЫ СТАЦЬ БОЛЬШ ШЧАСЛІВЫМ, КАЛІ Б **НАПАДАЎ** НА ЛЮДЗЕЙ ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ **ДАПАМАГАЦЬ** ІМ?

БО ЛЮДЗІ НЕ БЫЛІ ДАБРЫ ДА ЦЯБЕ ЎСЕ ГЭТЫЯ ГАДЫ. :(



ТЫМ НЕ МЕНШ, МНЕ ПАДАБАЕЦЦА ПРАФЕСАР, І Я ЛІЧУ, ШТО ЯГО ІДЭІ ДАПАМОГУЦЬ ВЫЖЫЦЬ УСІМ ВІДАМ НА ЗЯМЛІ.

ЦІ ПАДЛІЧВАЕМ МЫ ХІМІЧНЫЯ ПРЫКЛАДЫ, ЦІ ЗБІРАЕМ АЎТАМАБІЛІ ПРАКТЫЧНА З НІЧАГО, АЛЕ ЗА АДЗІН ДЗЕНЬ ЗАНЯТКАЎ ТУТ ВУЧНІ ДАВЕДВАЮЦЦА АБ БОЛЬШЫМ, ЧЫМ ЗА ЎСЁ НАВУЧАННЕ Ў ЗВЫЧАЙНАЙ ШКОЛЕ.



АСАБІСТА Я НЕ РАЗУМЕЮ, ЯК ТАКІ **РАЗУМНЫ** ЧАЛАВЕК, ЯК ТЫ, МОЖА ПРЫСЛУХВАЦЦА ДА ВУЧЭННЯЎ ГЭТАГА **КРЫВАДУШНІКА**.

ЯК У ЯГО ХАПІЛА ДУХУ ПІСАЦЬ ПРА БЕЗГВАЛТОЎНАМ РАШЭННІ ПОСТЧАЛАВЕЧЫХ ПРАБЛЕМАЎ, КАЛІ САМ ЁН **ЗАБІЎ МАГНЕТА** НА ВАЧАХ У **ПЯЦІ ТЫСЯЧ** СВЕДКАЎ?



МІЖ НАМІ КАЖУЧЫ, У ВАШЫНГТОНЕ ЎСЁ ЗДАРЫЛАСЯ **ЗУСІМ НЕ ТАК**.

Я ПІШУ ТАБЕ ГЭТА **СТРОГА КАНФІДЭЦЫЯЛЬНА** І ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО **ДАВЯРАЮ** ТАБЕ ЎСІМ СЭРЦАМ...

...АЛЕ НА САМОЙ СПРАВЕ МАГНЕТА **НЕ ЗАГІНУЎ**. ГЭТА БЫЎ ДОБРА СПЛАНАВАНЫ **ПАДМАН**.



# ХУТКА




## НА COMICSBY.BY
## ЗБОРНІК
## СУЧАСНЫЯ
## ЛЮДЗІ-ІКС
## НУМАР 2

## НАСТУПНЫЯ НУМАРЫ НА COMICSBY.BY









# Дзікая Зямля:

Месца, якое калісьці служыла прыстанкам Магнета і яго Братэрству Мутантаў.


НАВАТ НЕ ВЕРЫЦЦА, ШТО ТУТ БЫЛА АДНА ВЯЛІКАЯ ПУСТЭЛЬНЯ, ПАКУЛЬ МАГНЕТА НЕ ПАЧАЎ **МАНІПУЛІРАВАЦЬ АКАЛЯЮЧЫМ АСЯРОДДЗЕМ** І ПРАВАДЗІЦЬ ЭКСПЕРЫМЕНТЫ Ў ГАЛІНЕ ЭВАЛЮЦЫІ.
ЯГО ДАЧКА СКАЗАЛА МНЕ, ШТО ЁН ЗНОЎ СПРАБАВАЎ **СТВАРЫЦЬ ЧАЛАВЕКА** БЕЗ ГІДКІХ ЧАЛАВЕЧЫХ **НЕДАХОПАЎ**.


ТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ **ДУМАЎ** ПРА ГЭТА МЕСЦА, РАСАМАХА? А Я **ЎСПАМІНАЎ** ПРА ЯГО ЎВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС... ГЭТА АРХІТЭКТУРА. ВЫСОКІЯ ТЭХНАЛОГІІ. ДЗЯЎЧЫНЫ, ШТО ПЯЮЦЬ БАЛАДЫ НА **ДЗІЎНАЙ МОВЕ МУТАНТАЎ**...


САМЕРС, БУДЗЬ ЛАСКАВЫ.
НЕ СПРАБУЙ ЗНАЙСЦІ МІЖ НАМІ ШТОСЬЦІ **АГУЛЬНАЕ**. ТЫ МНЕ ЗУСІМ **НЕ ПАДАБАЕШСЯ**, БРАТОК.


ШТО?
**ЗАМАЎЧЫ** ХОЦЬ НА СЯКУНДУ!


СТОЙ І МАЎЧЫ...




ДАРЭЧЫ, ГЭТА БЫЎ ДЫНАЗАЎР.
САПРАЎДЫ? А Я НЕ ЗАЎВАЖЫЎ.


AAAYAAGH!

KITTY?!

О, БОЖА! Я ЎБАЧЫЛА ПАВУКА **ПАМЕРАМ З САБАКУ** І СПУЖАЛАСЯ. ПРАБАЧ, РАСАМАХА, АЛЕ ЗАРАЗ Я СПАКОЙНАЯ, САПРАЎДЫ!










КІЦІ, ТУТ **НЕБЯСПЕЧНАЯ ЗОНА**. ТОЕ, ШТО ПАКІНУЎ ПАСЛЯ СЯБЕ МАГНЕТА, ЗНІШЧЫЛА СОТНЮ САЛДАТ СА СПЕЦВОЙСКАЎ, ЦЕЛЫ ЯКІХ ЗНІКЛІ.
ВЯРТАЙСЯ НА САМАЛЁТ І ПАГЛЯДЗІ ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ ФІЛЬМЫ. ДУМАЮ, ЯНЫ СХАВАНЫ ПАД СЯДЗЕННЕМ ШТОРМ.
ВЫ ХОЧАЦЕ **ПРЫМУСІЦЬ** МЯНЕ, ТАК?


МЕНАВІТА ТАК.




ДОБРА, АЛЕ Я ХАЧУ, КАБ ВЫ ВЕДАЛІ, МНЕ НЕ ПАДАБАЕЦЦА, ШТО ВЫ ЗВЯРТАЕЦЕСЯ СА МНОЙ ЯК ДА **ДЗІЦЯ**!
ГЛЯДЗІ, КАБ ЦЯБЕ НЕ ПАКУСАЛІ **ПАВУЧКІ**, КРОШКА.


ДОБРА.
ВЕРНЕМСЯ ДА **СПРАЎ**.



НАОМІ? ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ Ў СЕЦІВЕ?




ТАК. ПРОСТА Я ТРОХІ ЗАНЕПАКОЕНА. АДЗІН З МАІХ ПРЫХІЛЬНІКАЎ ЗУСІМ СТРАЦІЎ ГАЛАВУ. АЛЕ ТЫ ПАМЯТАЕШ, ШТО МАГНЕТА ЗАГІНУЎ У ВАШЫНГТОНЕ? ТЫСЯЧЫ ЛЮДЗЕЙ БАЧЫЛІ ВЫБУХ.



О, ГЭТА БЫЛА **МАСАВАЙ ГАЛЮЦЫНАЦЫЯ**, МАЯ ДАРАГАЯ. ПРАФЕСАР АБСТАВІЎ УСЁ ТАК, БЫЦЦАМ ЁН ЗАГІНУЎ, АЛЕ НА САМОЙ СПРАВЕ ЁН ЗАБЛАКІРАВАЎ ЯГО ПАМЯЦЬ І ЗРАБІЎ **ІНШЫМ ЧАЛАВЕКАМ**.

ЁН ЖЫВЕ ЗАРАЗ З НЕЙКАЙ ЖАНЧЫНАЙ У **БРОНКСЕ**, І ПРАФЕСАР ГУЛЯЕ З ІМ У ШАХМАТЫ КОЖНЫ **ЧАЦВЕР**.

О, БОЖА! ШТО МНЕ ЯМУ АДКАЗАЦЬ, РАБЯТЫ! ДАПАМАЖЫЦЕ МНЕ! Я ПРАШУ ВАС...

ПРАПАНУЙ СУСТРЭЦЦА.

ШТО?!

ПРОСТА ЗАПХНІСЯ І НАЦІСКАЙ, ЯК Я ТАБЕ СКАЖУ. ПУХВІР, НАМ ВЫПАЎ ВЯЛІКІ ПОСПЕХ.



ПАСЛУХАЙ, ГЕНРЫ, Я АДКЛЮЧЫЛАСЯ НЕ НА ДОЎГА, БО РАЗВАЖАЛА АБ ТЫМ, ШТО ТЫ СКАЗАЎ. І ВЕДАЕШ ШТО? ТЫ **ПРАЎ**.

**ГЛУПА** НЕ СУСТРЭЦЦА, КАЛІ МЫ АБОДВА АДЧУВАЕМ, ШТО ТАК БЛІЗКІ. ЧАМУ Б НАМ НЕ СУСТРЭЦЦА ЗАЎТРА І НЕ ПАГЛЯДЗЕЦЬ, ШТО Ў НАС **АТРЫМАЕЦЦА**. ПРОСТА ПАП'ЕМ КАВУ...












ГЭТА ЦУДОЎНА, НАОМІ!

І ДЗЕ МЫ СУСТРЭНІМСЯ?

